*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

# Газета Слонімская

N 5 (5). Слонім. 3-10 ліпеня 1997г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны

**АД РЭДАКЦЫІ**

## ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**Сёння ў сваіх руках вы трымаеце пяты нумар «Газеты Слонімскай». Адны яго купілі, другія — атрымалі па падпісцы. Прыемна, што пасля выхаду першых нумароў, у газеты адразу з'явіліся свае прыхільнікі. На трэці квартал на «Газету Слонімскую» падпісалася амаль 2 100 чалавек. Падпіска працягваецца і верыцца, што сяброў газеты будзе яшчэ больш.**

**Наша выданне па-ранейшаму друкуецца ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні. Але, нягледзячы на ўсе тэхнічныя і арганізацыйныя складанасці, "Газета Слонімская" будзе выходзіць штотыднёва на чатырох, а потым, магчыма, і на васьмі старонках. Так патрабуеце Вы, шаноўныя чытачы, так патрабуе час. Мы адчуваем, што вам падабаецца наша газета. Дзесяткі вашых званкоў з прапановамі і заўвагамі сведчаць аб тым, што такое выданне павінна быць у нашым горадзе. Рэдакцыя таксама атрымала пісьмы з пажаданнямі ад былых слонімцаў з Украіны, Расіі, Польшчы, Бельгіі, ЗША і Ізраіля. Пра «Газету Слонімскую» пісалі «Пагоня», «Чырвоная змена», «Свободные новости», «Голас Радзімы» і іншыя выданні. Гэта нас натхняе і радуе, бо выхад газеты — ужо гісторыя. Дык давайце ж яе ствараць разам.**

## Маладзёжныя тусоўкі

**Мясцовая рэгіянальная асацыяцыя «Воля да развіцця» правяла трэнінгавы семінар для маладзёжных лідэраў Гродзенскай вобласці пад назвай «Лідэр мабільнай групы».**

Па словах выканаўчага дырэктара асацыяцыі дэпутата гарадскога савета Міхася Варанца, у семінары прынялі ўдзел 23 нефармальныя маладзёжныя лідэры ад 16 да 25 гадоў. Большасць з іх былі са Слоніма і Слонімскага раёна, а таксама з Ваўкавыска.

Цікава тое, што ў той дзень і час у горадзе праходзілі дзве канферэнцыі (гарадская і раённая) Беларускага патрыятычнага саюза моладзі (БПСМ). Дык некалькі маладых людзей літаральна ўцяклі з канферэнцыі «патрыётаў», каб трапіць на семінар «волі». Мусіць, яны палічылі за лепшае атрымаць веды ад лекцый па тэмах «Тэорыя лідэрства», «Рысы лідэра і падначаленага», «Узаемадзеянне грамадскіх ініцыятываў і органаў улады», чым слухаць сухія і казённыя выступы адраджэнцаў былога камсамола.

Акрамя асноўных выкладчыкаў асацыяцыі маладых навукоўцаў «ВІТ» (Гродна), перад удзельнікамі семінару выступілі вопытныя практыкі — экс-старшыня гарадскога Савета Мікола Кавальчук (Ваўкавыск) і дырэктар Цэнтра прэвентыўнага вырашэння канфліктаў Душан Ондрушак (Славакія, г.Браціслава).

**Наталля ФУРСАВА**



**АФІЦЫЙНА**

Як паведамляе агенцтва БелаПАН, у першым квартале гэтага года 10% самых забяспечаных жыхароў Беларусі мелі на руках чвэрць усіх грашовых рэсурсаў насельніцтва, а на долю 10% самых бедных людзей прыпадала толькі 3,7% грошай. На пакупку тавараў і паслуг беларусы патрацілі больш за 73% сваіх даходаў. На абавязковыя плацяжы і ўзносы (падаткі, пошліны, абавязковае страхаванне і да т. п.) было патрачана 6,3%, на збярэжэнні ва ўкладах і каштоўных паперах, пакупку валюты — 19,1% наяўных беларускіх рублёў.

Высвятляецца, што 13,2% насельніцтва краіны — амаль паўтара мільёны чалавек — ухітраецца выжыць, маючы даход менш за 27,5 долара ЗША ў месяц (менш за долар у дзень).

**Тэма** *У горадзе выяўлены першы ВІЧ-інфіцыраваны*

## СНІД і ў Слоніме не спіць

Высвятляецца, што носьбітам ВІЧ-інфекцыі ў нашым горадзе стаў салдат тэрміновай службы Слонімскай механізаванай брыгады, які быў прызваны ў войска з Гомельскай вобласці. «Чуму XX стагоддзя» выявілі ў яго выпадкова ў шпіталі, дзе яму рабілі аперацыю.

Па словах начальніка медчасці брыгады маёра Вячаслава Карабача, хворы салдат быў адразу накіраваны на далейшае абследаванне ў Мінск. Галоўны ўрач рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу Валеры Глазоўскі пацвердзіў карэспандэнту «ГС», што сапраўды ваеннаслужачы быў ВІЧ-інфіцыраваны. Па інфармацыі цэнтра, сёння ў Беларусі зарэгістравана 1568 носьбітаў ВІЧ-інфекцыі. Ад СНІДу ў нашай краіне памерла ўжо 14 чалавек. На думку Валерыя Глазоўскага, калі гэтая страшная хвароба і надалей будзе распаўсюджвацца такімі тэмпамі, то ў бліжэйшы час колькасць ВІЧ-інфіцыраваных павялічыцца да 2—2,5 тысяч чалавек.

СНІД

Па сцвярджэнні слонімскіх медыкаў, наш горад і раён сваіх уласных хворых на СНІД пакуль не мае. Затое колькасць дарослых хворых на пранцы (сіфіліс) расце з кожным годам. Асабліва рэзкі ўздым гэтага захворвання зафіксаваны ў 1995 годзе. Летась было зарэгістравана 60 выпадкаў хворых на сіфіліс. А сёлета, толькі за паўгода, было выяўлена 68 хворых. Сярод іх — 18 рабочых, 5 ваеннаслужачых, 1 калгаснік, 1 служачы, 3 школьнікі. Астатні кантынгент — беспрацоўныя і бадзягі.



Як паведаміў намеснік галоўнага ўрача раённай санэпідстанцыі Анатоль Цепін, на пранцы хварэюць у асноўным людзі ва ўзросце ад 20 да 39 гадоў. Уздым гэтага захворвання ён звязвае з цяжкім сацыяльна-эканамічным становішчам у краіне і выхаваннем моладзі. Па яго словах, апошнім часам статыстыка па сіфілісу пайшла ўверх і за кошт слонімскіх «путан». Напрыклад, 17-гадовай «плечевой» Н., якая цяпер лечыцца ў скурвендыспансеры, пранцы «падараваў» шафёр-паляк за 50 нямецкіх марак. Дарэчы, гэтая дзяўчына ўжо ветэран дыспансера. Першы раз яна трапіла туды з дыягназам ганарэі, калі ёй было ўсяго 14 гадоў.

Як паведаміла загадчыца аддзялення скурвендыспансера Ганна Лапухова, цяпер ад сіфіліса лечыцца там 13 чалавек.

**Валодзя ЯНЧУК**

**Здарэнні**

## Жудасная смерць

**У Слоніме на ўласнай кухні зажыва згарэла пенсіянерка — жыхарка Пятралевіцкага завулка.**

Спачатку загарэўся яе фартух, валасы, потым полымя ахапіла ўсю жанчыну. На яе крык з агароду прыбег муж, але ён ужо не змог дапамагчы жонцы. Мужчына толькі паспеў пазрываць рэшткі абгарэлага адзення.

Апёкі былі жудасныя. Праз некалькі гадзін жанчына памерла ў рэанімацыі...

**Алег ТАЧОНЫ**

## Свечка знесла дах гаража

**Два жыхары нашага горада (дзед з унукам) сталі ахвярамі ўласнай неасцярожнасці.**

23 чэрвеня ў 17.35 слонімскія пажарныя атрымалі сігнал пра пажар у раёне Брэсцкай вуліцы. Высветлілася, што там дзед са сваім унукам пайшлі ў гараж, дзе стары чалавек запаліў свечку, каб асвятліць памяшканне. Неспадзявана адбыўся выбух, у выніку якога знесла дах гаража.

Дзед і 6-гадовы хлопчык з цяжкімі апёкамі былі дастаўлены ў рэанімацыю. Пажарныя лічаць, што прычынай выбуху былі пары бензіну.

Як стала вядома, у суботу, 28 чэрвеня, дзед — 54-гадовы Міхаіл Леашэвіч памёр у бальніцы, а ўнук застаўся жывы. Ён знаходзіцца ў траўматалогіі.

**Алег ТАЧОНЫ**

**НАВІНЫ**

## СУСТРЭЧА З «ЧАРНАКНІЖНІКАМ»

Праз два тыдні, 20 ліпеня, заканчваецца сёмы тэатральны сезон Слонімскага беларускага драматычнага тэатра. Пасля чаго яго калектыў пойдзе ў чарговы месячны адпачынак. Але напярэдадні ў тэатры адбылася здача спектакля «Чарнакніжнік» па п'есе Сяргея Кавалёва. Яна напісана па матывах твораў беларускага і польскага пісьменніка Яна Баршчэўскага, які жыў у мінулым стагоддзі.

Пастаноўку спектакля ажыццявіў Віктар Небальсін.

**С. Ч.**

## СЛОНІМСКАЯ СЯДЗІБА «АЛЬБЯРЦІН»

*Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры позняга класіцызму*

Таямніцы *Клады земли Слонимской*

# Голландский пришелец

Обычно летом все слонимские пацаны пропадают на Щаре. В 70-е годы Щара была ещё полноводной, глубокой и богатая рыбой. По ней ходили большие катера и сплавлялись плоты, по которым можно было пробежаться с одного берега на другой. На плотах мы любили устраивать нырялки. Для этого находили широкую, не слишком толстую, доску, закрепляли её между брёвен. Доска пружинила, высоко подбрасывала ныряльщика вверх, и пошло веселье. Вот такую нырялку однажды устроили напротив первой школы, со стороны лесопилки.

Наша дворовая команда, человек двеннадцать сорванцов, бесилась от души. Играли в водного «бэрака» – догонялки с мячом. Метров пятнадцать от нырялки толстая тётка полоскала с мостков бельё и покрикивала на нас. Неожиданно она запричитала, заквохтала и стала звать: *«Хлопчыкі, дапамажыце!»* Выяснилось, что у неё из кармана выпал ключ в воду. Для нас поиск ключа на двухметровой глубине – новая забава. А чтобы не замутить воду, решили искать ключ по очереди.

Первым нырнул наш заводила – парень по кличке «Калатуха». Вскоре он появился из воды держа в руке какой-то мешочек, наподобие кисета, в котором обычно деревенские мужики хранят махорку. Хлопец зубами развязал кисет. Вдруг ткань его разрывается надвое и в воду посыпались, заблестев на солнце, монеты. Наш атаман выругался и опять исчез под водой. За ним, как пингвины, попрыгали все остальные.

Напрасно тётка бегала по берегу и верещала, что вскаламутили воду, и ключа не найдём! Она не видела, что произошло. О ключе все мгновенно забыли. Мы рыскали по дну, стараясь нащупать в мутной воде то, что высыпалось из кисета. Под водой ныряльщики сталкивались лбами, отталкивали друг друга, набивали шишки на голове о брёвна плота при всплытии. Слава Богу, что в этой неразберихе никто не утонул.

Минут через двадцать все повылазили на берег подсчитывать «улов» – тонкие, величиной с двухкопеечную монету, желтые кружочки. На одной стороне монеты стоял рыцарь с мечом, на другой изображался чей-то герб. Уже потом ребята узнали название монет: голландские золотые дукаты 17-го века. Как они попали в канал Агинского – непонятно! Ведь сам канал выкопали лишь через сто лет после чеканки монет. Не все хлопцы тогда смогли похвастаться уловом, в том числе и атаман. Кто-то из ребят, кому повезло больше, подарил ему одну монету.

Разбрелась по свету наша дворовая команда. Как в песне поётся: «Иных уж нет, а те далече...» Уже давно живёт в Москве «Калатуха». Изредка приезжает проведать своих «стариков». Прошлым летом он пригласил нас на 16-летие дочери. Мы долго решали: что подарить? Неожиданно, один из наших хлопцев, у которого жизнь пошла косяком, и смысл её он нашёл в бутылке, предложил подарить ей дукат. Как он его не пропил – одному Богу известно!? Быстро нашли в Слониме человека, который припаял к монете ушко. В «Рубине» купили тонкую золотую цепочку и красивую коробочку. Когда наш приятель вручил девушке подарок и та, радостная, показала его отцу, у «Калатухи» на глазах навернулась слеза. Желая скрыть свою мимолётную слабость, бывший дворовый атаман отвернулся и тихо произнёс: *«Спасибо, братва!»* А после паузы добавил: *«А я свой не сберёг...».*

**Игорь ПОДГОРОДЕЦКИЙ**


*Малюнак Яўгена Іванова*

Між іншым

# «А на кладбище всё спокойненько...»

**Сейчас на городском кладбище, что на улице Красных Партизан, захоронено около 5 590 человек.**

По утверждению медиков Слонимской районной больницы, за последние 10-12 лет показатель смертности в городе не изменился. Он остаётся стабильным – в среднем на тысячу жителей умирает 12 человек. Тем не менее за 23 года своего существования (с 1974 г.) кладбище выросло вдвое. А на протяжении последних 4 лет его площади постоянно расширяются и сегодня составляют 10,2 гектара. Для сравнения, на территории кладбища могло бы разместиться 5 городских парков культуры и отдыха.

По словам директора коммунального хозяйства города Константина Зубко, вновь подготовленные для захоронения площади заполняются за год -два вместо предполагаемых пяти лет. Основная причина в том, что *«по желанию близких родственников им выделяются свободные места рядом с могилой умершего».*

В этом году на расширение и благоустройство кладбища на улице Красных Партизан из городского бюджета выделено 500 млн. рублей.

**Людмила ШЕНБЕРГ**

## КАЛІ МЫ ЗАБУДЗЕМ ПРА ІХ, ДЫК ХТО ЎСПОМНІЦЬ ПРА НАС

**Сябры Саюза палякаў прывялі да ладу старажытныя могілкі ў Лабазоўцы (XVII ст.).**

На іх было пахавана шмат вядомых нашых землякоў, пра якіх, на жаль, мы ўжо забыліся. Напрыклад, там знаходзіцца магіла выдатнага слонімскага доктара Бельскага. Ён памер на пачатку XX ст., і ў знак пашаны ўдзячныя слонімцы паставілі яму ўнікальны помнік.

Добраўпарадкаваць могілкі ў Лабазоўцы дапамаглі вайскоўцы слонімскага гарнізона і гарадскія ўлады.

**Андрэй ТУРУК**

СПОРТ

Завяршыўся чэмпіянат свету па шашках-64 сярод хлопчыкаў і дзяўчынак, які праходзіў у Слоніме.

Яго вынікі былі падведзены ў мінулую нядзелю, 29 чэрвеня. На жаль, юныя шашысты Слонімшчыны выступілі няўдала. Пераможцамі сталі Аляксей Міронаў з Расіі і Кацярына Катэнка з Украіны. Яны атрымалі тэлевізары «Верас». А тыя, хто заняў другія і трэція месцы, былі ўзнагароджаны аўдыёплэерамі і насценнымі гадзіннікамі.

Калі слонімскія спартсмены нас не парадавалі, дык спонсарам трэба сказаць словы ўдзячнасці. Напрыклад, Слонімскі хлебазавод выпек і падараваў самаму юнаму шашысту з Расіі прыгожы і смачны торт, а ўсе ўдзельнікі атрымалі электронныя гадзіннікі. І за гэта дзякуй!

НАВІНЫ

Нядаўна ў нашым горадзе пабывалі беларускія журналісты Мікола Ваўранюк і Юрка Ляшчынскі, якія жывуць і працуюць у Беластоку.

Яны наведалі каталіцкія і праваслаўныя храмы Слоніма, Жыровіцкі манастыр і былую сядзібу Пуслоўскага ў Альбярціне, а таксама сустрэліся з калектывам нашай газеты.

Пасля вяртання ў Беласток у польскай прэсе і беларускім тыднёвіку «Ніва», які там выдаецца, з'явіліся іх цікавыя рэпартажы пра наш Слонім, а таксама перадачы на Польскім радыё.

**Сяргей ЧЫГРЫН**





Увага: Конкурс

## А ЯШЧЭ БЫЎ ТАКІ ВЫПАДАК...

Запрашаем чытачоў «Газеты Слонімскай» прыняць удзел у нашым новым конкурсе «А яшчэ быў такі выпадак». Кожны з вас можа даслаць у рэдакцыю ліст з цікавай, кур'ёзнай, смешнай гісторыяй, у якой вы былі ўдзельнікам альбо сведкам. Час, калі адбылася падзея, не галоўнае. У першую чаргу, каб выпадак сам па сабе быў неардынарным. Самыя цікавыя гісторыі мы будзем друкаваць у газеце. Пераможца конкурсу ў канцы года будзе заахвочаны каштоўным прызам – **ФОТААПАРАТАМ.**

Лісты дасылайце на адрас: ***231800, Слонім-2, а/с 5. На конкурс «А яшчэ быў такі выпадак».***

# Як слонімца ў цягніку абрабавалі

**Нядаўна наш зямляк Мікалай К. вяртаўся ў Слонім з расійскай сталіцы цягніком Масква — Брэст.**

У купэ ён пазнаёміўся з чалавекам, разгаварыліся. Аказалася, што незнаёмец ехаў дахаты пасля 17-гадовай «адсідкі». За краты яго пасадзілі яшчэ пры Брэжневе, а як выйшаў, дык ужо няма ні КПСС, ні СССР, і Бацькаўшчына за мяжой... Ехаў былы «зэк» у Мазыр. Мікалай вырашыў паспачуваць свайму спадарожніку – купіў некалькі пляшак гарэлкі, якая потым пацякла ракой...



Калі раніцай Мікалай прачнуўся ў Баранавічах, то заўважыў, што сабутыльнік скраў амаль усе яго рэчы. Сярод іншага зніклі новыя джынсы, куртка, кашуля, майка і нават шкарпэткі... Не пакваліўся злодзей толькі на стаптаныя красоўкі. А яшчэ пакінуў ён Мікалаю «кампенсацыю» – дзесяць тысяч расійскіх рублёў...

**Андрэй ТУРУК.**

ЮРЫДЫЧНАЯ КАНСУЛЬТАЦЫЯ

# УВАЖАЙ АДМИНИСТРАТИВНЫЙ КОДЕКС

Лето – хорошая штука. Это вам и солнышко, и речка с песочком, лесочек, тенёчек и т.п. и т.д. Кроме того – море всяких там витаминов. Однако не стоит забывать, что отдыхать, собирать дары природы, а также ими торговать нужно всегда осмотрительно.

Административный кодекс предусматривает множество запретов и ограничений за невыполнение которых предусмотрено наказание в виде штрафов. Вот, к примеру, купание в *«запрещенных местах рек, озер, водохранилищ, прудов и иных водоёмов»* грозит предупреждением либо штрафом в размере до 1 минимальной заработной платы (МЗП).

Оказывается, следует быть осторожным и внимательным не только на воде, но и в лесу. Например, согласно ст. 69 кодекса, самовольный сбор плодов, семян, орехов и ягод дикорастущих растений, а также лекарственных трав, грибов и т. п. на участках, где это запрещено (заповедники, заповедные зоны национальных парков) будет стоить любителю лесных даров от 1 до 3 МЗП, а если любитель окажется должностным лицом – от 5 до 25 МЗП. А вот за сбор плодов и ягод в обычном лесу с нарушением установленных сроков или с применением запрещённых методов грозит штраф в размере от 1 до 5 МЗП, должностным лицам – от 10 до 50 МЗП. А засорение лесов отходами и отбросами может повлечь на казание в размере от 1 до 5 МЗП, для должностных лиц – от 5 до 25 МЗП.

Кстати, законом предусмотрены наказания и за недобросовестное отношение к борьбе с сорняками. Статья 100 Административного кодекса – *«Неприятие землепользователями мер по борьбе с сорняками»* вначале грозит лишь предупреждением, а непрополка в течении года после предупреждения – уже штраф в размере от 1 до 3 МЗП на граждан и от 2 до 5 МЗП на должностных лиц. Но это ещё не всё. *«Злостное неприятие мер по борьбе с сорняками»* карается штрафом в размере от 3 до 5 МЗП для рядовых граждан и от 5 до 10 для должностных лиц.

А если вам всё же удалось что-то вырастить на своём огороде, то следует быть осторожным во время продажи урожая на улице. За торговлю, например, редиской или капустой вас могут оштрафовать на сумму до 2 МЗП, а если застукали за продажей промышленных товаров – до 3 МЗП, да ещё могут и конфисковать предмет торговли.

**Роман КОВАЛЁВ**

Да 115-годдзя з дня нараджэння

# Янка Купала ў Слоніме

**1939 год. Сярэдзіна лістапада. Чорны «Шаўрале» выскачыў на ўзгорак, з якога быў відаць старажытны Слонім. Машыну вёў шафёр Ятрымік, а побач з ім сядзеў не абы-хто, а сам Янка Купала. Вяртаючыся з Беластоку, Іван Дамінікавіч вырашыў заехаць у Слонім, дзе ў гэты час жыў Гальяш Леўчык — мясцовы паэт, мастак, калекцыянер і музыкант.**

Пад'ехаўшы да памяшкання павятовага аддзела асветы, Янка Купала ўвайшоў у адзін з пакояў.

Хударлявы юнак, які там знаходзіўся, аж аняме́ў ад нечаканасці, бо побач стаяў знакаміты песняр Янка Купала.

— *У Слоніме калісь жыў паэт-нашанівец Гальяш Леўчык. Вы ведаеце: жыве ён тут зараз ці не?* — спытаў госць.

— *Так я сам вас завяду да яго. Пойдзем!* — ўзрадаваўся юнак.

Ужо праз некалькі хвілін машына прыпынілася каля хаткі № 73, што на Чырвонаармейскай вуліцы (цяпер яе ўжо няма, тут знаходзіцца Слонімскі аўтарамонтны завод). З маленькага доміка выйшаў сівы чалавек. Прыклаўшы далонь да ілба, нібы ратуючыся ад сонца, ён прыглядаўся да Янкі Купалы. Сяргей Новік, так звалі таго юнака, крыкнуў:

— *Добры дзень, дзядзька Гальяш! Прымай госця!*

Воклічы радасці вырваліся з грудзей старых паэтаў. Сябры абняліся і моцна пацалаваліся.

Гальяш Леўчык запрасіў госця ў хату. Пакойчык, у які яны ўвайшлі, нагадваў маленькую залу сапраўднага музея. Усе сцены былі завешаны малюнкамі і фотаздымкамі. Шмат было тут грамат, прывілеяў, летапісаў, кніг старых і новых, звязаных з яго роднай Слонімшчынай.

Там гутарылі нядоўга. Потым размова працягвалася ў час абеду ў «Першым беларускім рэстаране» (цяпер у гэтым будынку знаходзіцца Слонімскі аддзел унутраных справаў).

— *Ну, хлопцы, сядайце ў машыну і пакажыце нам на Мінск дарогу, а то позна ўжо! Трэба завідна да сталіцы даехаць,* — папрасіў іх Купала.

Усе селі ў машыну і паехалі па Замкавай вуліцы, а на Маставой (цяпер яна носіць імя Янкі Купалы) яны развіталіся. На жаль, больш сустрэцца Янку Купалу з Гальяшом Леўчыкам не давялося.

**Сяргей ЧЫГРЫН**







***На здымках:* злева – Слонім, вул. Маставая (Янкі Купалы), 1939 г; зверху справа – Янка Купала; унізе – Гальяш Леўчык**

ЗНАХОДКІ

## КАПАЙЦЕ І ШУКАЙЦЕ

**Жыхар нашага горада Сяргей Ц., які капаў грады на сваім агародзе, знайшоў медны круглячок часоў праўлення расійскай імператрыцы Елізаветы Пятроўны. Манета «деньга» была адчаканена ў 1748 годзе.**

А вось Валянцін С., жыхар адной з вёсак раёна, вырашыў навесці парадак на бабуліным гарышчы. Яго радасці не было межаў, калі ён там знайшоў фаліянт (кнігу), які быў надрукаваны ў Ляйпцыгу ў 1819 годзе. Адно толькі не задаволіла хлапчука – кніга выдадзена на лацінскай мове...

**Генадзь ГЕРАСІМАЎ**

РЭКЛАМА



ПАРАДЫ

## Доктара Калінічава



СОВЕТ 2.

### ЧТО ДОЛЖНО БЫТЬ В ВАШЕЙ ДОМАШНЕЙ АПТЕЧКЕ

Конечно, самый лучший совет по составу вашей домашней аптечки Вы получите у своего врача. Я предлагаю Вашему вниманию примерный типовой список.

**ПЕРЕВЯЗОЧНЫЕ СРЕДСТВА:** 2 бинта шириной 6 см, 2 бинта шириной 8 см, 1 перевязочный пакет маленький, 1 перевязочный пакет средний, 1 перевязочный пакет большой, 1 катушка пластыря шириной 2 см, 1 упаковка бактерицидного пластыря, вата, пинцет, 1 ножницы для перевязки, 1 треугольная косынка, 1 острые ножницы, палочки с ватными тампонами.

**ЛЕКАРСТВА:** Таблетки от боли, таблетки от воспалений полости рта и горла, таблетки активизированного угля, средства против простуды, антисептическая присыпка, средства для дезинфекции раны, гель против ожогов, зеленка, йод, корвалол, валидол, нитроглицерин.

**ЛИЧНЫЕ ЛЕКАРСТВА:** Лекарства, прописанные врачом от Ваших заболеваний, как для постоянного приёма, так и для острых случаев.

**ПРЕДМЕТЫ УХОДА ЗА БОЛЬНЫМ:** Термометр для измерения температуры, шпатель для осмотра полости рта и горла, дезинфицирующее средство, пипетка, марлевая повязка, напальчники, перчатки.

**НЕСКОЛЬКО СОВЕТОВ ПО ДОМАШНЕЙ АПТЕЧКЕ:** Лучше всего, если лекарства будут храниться в специальном ящичке, в прохладном и сухом месте, но не на кухне и не в ванной. Внимание: дети не должны иметь доступ к лекарствам. Поэтому домашняя аптечка должна находиться в недоступном для детей, но легко доступном для взрослых месте. Обратите внимание: если Вы использовали перевязочные материалы или лекарства, позаботьтесь о том, чтобы немедленно купить новые. Проверяйте, не потерялись ли пластыри и другие перевязочные материалы чистоту и эластичность. Засохшие мази выбрасываются. Обращайте внимание на срок годности лекарств. Лекарства всегда оставляйте в своей оригинальной упаковке, пишите на ней также дату покупки.

Никогда не выбрасывайте инструкцию по применению лекарства. Перед употреблением лекарства внимательно прочтите её. Тюбики и пузырьки хорошо закрывайте. Никогда не выбрасывайте просроченные или ненужные лекарства без дополнительной упаковки в мусорное ведро, контейнер для мусора или на временную свалку, где их могут легко обнаружить дети.

Футбол *Турнир на Кубок костела св.Андрея*

# Как оказалось, «Коммунальник» с «Талантом»

**В соревнованиях на Кубок костела святого Андрея, которые проходили в Слониме на протяжении 10 дней, приняли участия 20 команд, из них 13 — дворовых, 7 сборных представляли школьные и спортивные лагеря.**

Всего 220 мальчишек Слонима боролись за звание чемпиона. А вот победителем стала команда «Талант-1» (спортивная школа «Коммунальник»). Ребятам, кроме переходящего кубка и дипломов, был вручен основной приз – 500 тысяч рублей. Второе место заняли юные футболисты «Фортуны» (спортивная школа «Альбертин»), третье – «Кристалл» (ул. Брестская). Они также были удостоены призов: 300 тыс. и 200 тыс. рублей соответственно.

Можно сказать организаторы турнира подарили школьникам маленький праздник. Хотя в финале он был омрачён небольшим скандалом. Во время решающего матча за первое место между командами «Талант-1» и «Фортуна» в ворота Альбертина был назначен пенальти. Однако тренеры «Фортуны» посчитали решение судьи неправильным и отказались дальше продолжать игру. В связи с этим они приказали своим воспитанникам покинуть футбольное поле. Случилось это в начале второго тайма. Тяжело сказать, какую цель преследовали взрослые дяди, однако ребятишки покидали стадион со слезами на глазах.

Организатор, спонсор и одновременно судья того матча Николай Лажечников этот инцидент прокомментировал так:

*«Тренеры спортивной школы Альбертина единственные остались недовольны турниром. Кстати они на протяжении всех соревнований оказывали давление на судей и секретариат турнира. Конечно, мы не профессионалы, однако главная цель турнира была в популяризации футбола среди пацанов. Одновременно мы хотели хоть чем-то занять ребят во время каникул. Удивляет и то, что на матчи почти не приходили родители поболеть за своих детей».*

А посмотреть было на что. Многие ребята показали хорошую игру. Некоторых из них пригласили тренироваться в секции. Например, Виктор Ковчун был признан лучшим вратарём, Андрей Бакумцев – лучшим футболистом, а Саша Кузьмич – лучшим бомбардиром. На его счету 13 голов. Все они поощрены кожаными мячами.

По словам Лажечникова подобный турнир состоится и следующим летом.

**Анатолий МИРСКИЙ**



НАШ КАЛЯНДАР

**1 ЛІПЕНЯ 1812 ГОДА** ў Слоніме арганізавалася грамадзянская адміністрацыя на чале з Феліксам Бронскім.

Генерал Ян Канопка пачаў фарміраваць полк уланаў, жандармерыю і «народную гвардыю», якая павінна была падтрымліваць парадак у горадзе.

**2 ЛІПЕНЯ 1903 ГОДА** на хутары Лагуцева Казлоўшчынскай воласці Слонімскага павету (цяпер Дзятлаўскі раён) нарадзілася Алена Ляўецкая, актыўная дзеячка нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі. Была рэпрэсіраваная савецкімі ўладамі. Пасля вяртання з лагера жыла ў Слоніме.

**3 ЛІПЕНЯ** споўніўся б 101 год Андрэю Пракапчуку, прафесару, заслужанаму дзеячу навукі БССР, заснавальніку беларускай школы дэрматавенералогіі, ураджэнцу вёскі Чамяры.

**У НОЧ З 3 НА 4 ЛІПЕНЯ 1944 ГОДА** фашысты вывезлі са слонімскай турмы і расстралялі на Пятралевіцкай гары 102 чалавекі, у тым ліку цяжарных жанчын і грудных дзяцей.

**4 ЛІПЕНЯ 1926 ГОДА** ў Слоніме на Рыбацкай вуліцы адбылася дэманстрацыя, у якой удзельнічала каля 600 рабочых і сялян. Больш 25 удзельнікаў дэманстрацыі былі затрыманы польскай паліцыяй, з іх 18 асуджаны на розныя тэрміны зняволення.

**5 ЛІПЕНЯ 1944 ГОДА** пачалася Баранавіцка-Слонімская аперацыя войск Першага Беларускага фронта пад камандаваннем генерала К. Ракасоўскага.

**6 ЛІПЕНЯ** споўніўся б 101 год Антону Валынчыку, беларускаму кампазітару, хормайстру, музычнаму педагогу, заслужанаму дзеячу культуры Беларусі, ураджэнцу вёскі Мяльканавічы.

**7 ЛІПЕНЯ 1989 ГОДА** быў урачыста адчынены ў новым будынку Народны музей чацвёртай сярэдняй школы г. Слоніма.

**9 ЛІПЕНЯ 1944 ГОДА** ў 17 гадзін пачалася вайсковая аперацыя вызвалення Слоніма ад фашысцкіх захопнікаў. Адначасова з трох напрамкаў у горадзе завязаліся ўпартыя вулічныя баі, якія працягваліся ўсю ноч.

**10 ЛІПЕНЯ** ўрачыста адзначаюцца 53-я ўгодкі вызвалення Слоніма ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**У 1931 ГОДЗЕ** ў Слоніме прайшоў страйк каля 300 рабочых, занятых на будаўніцтве гарадской электрастанцыі. Рабочыя патрабавалі павышэння зарплаты і ўсталявання 8-гадзіннага рабочага дня.

**Сяргей ЁРШ**

Газета Слонімская. Рэг. 947 ад 24.03.1997г.
*Заснавальнік і рэдактар Віктар Валадашчук*
*Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Брэсцкая, 109-1-12. Тэлефон 5-24-12*
*Падпісана да друку 02.07.1997 (8:00)* © *«Газета Слонімская»*
*Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, вул. Савецкая, 80*
*Наклад 4.546 экз. Заказ № [illegible] Падпісны індэкс 64042*